# БЕЛАРУСЫ Ў СВЕЦЕ

№12 (211)
снежань 2019

Інфармацыйны бюлетэнь • Міжнароднае грамадскае аб'яднанне "Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына"



**У НУМАРЫ:**

## Пётра Мурзёнак: Беларус, які вызнае сябе беларусам, не можа быць ворагам

Чым ёсць незалежнасць? Як яе захаваць? Ці магчымая ў сучасным свеце незалежная дзяржава, не абцяжараная саюзамі і блокамі?.. Пытанні са своеасаблівай "Анкеты Незалежнасці" мы вырашылі задаць дзеячу беларускай дыяспары ў Канадзе Пятру Мурзёнку.

**Старонка 6**

## Крысціна Шыянок: На канцэрце Вольскага ў Празе зразумела, што сумую

Апошнія 10 гадоў Крысціна Шыянок жыве ў Чэхіі. Яна – судовая перакладчыца. Амаль 24 гадзіны на суткі яе могуць выклікаць у паліцыю альбо суд, каб перакладаць паміж беларускай, рускай і чэшскай. Вольны час дзяўчына прысвячае беларускай дыяспары: ад перакладаў выступаў гасцей з Беларусі да... арганізацыі "беларускага піва".

**Старонка 7**

## Абвешчаны збор сродкаў на кнігу ўспамінаў Радзіма Гарэцкага

"Бацькаўшчына" далучылася да ініцыятывы журналіста Глеба Лабадзенкі па збору грошай на кнігу ўспамінаў вядомага навукоўца і грамадскага дзеяча Радзіма Гарэцкага.

**Старонка 8**




# 2019 ГОД З "БАЦЬКАЎШЧЫНАЙ"

18 снежня адбылося пасяджэнне Малой Рады МГА "ЗБС "Бацькаўшчына", падчас якой кіраўніцтвам Згуртавання была агучана і зацверджана справаздача аб дзейнасці МГА "ЗБС "Бацькаўшчына" за 2019 год і прыняты зварот у абарону незалежнасці Беларусі. Інфармацыю аб выніках працы аргкамітэта па стварэнню знака "Праведнікі Свету" давёў даклад Юры Меляшкевіч. Быў прыняты зварот МГА "ЗБС "Бацькаўшчына" ў абарону незалежнасці Беларусі.

Адсправаздачыўшыся на пачатку года аб праведзенай у 2018 годзе працы, Згуртаванне "Бацькаўшчына", не збаўляючы абаротаў, увайшло ў новы працоўны год. Як і раней, штодзённа абнаўляецца сайт Згуртавання **zbsb.org**, штомесяц выходзіць бюлетэнь "Беларусы ў свеце" і раз на квартал мы дапамагаем Саюзу беларускіх пісьменнікаў у выданні бюлетэня з аглядам кніжных навінак "Кніганоша". "Бацькаўшчына" на забывае сваіх юбіляраў і штогод віншуе іх з круглымі датамі. І канешне ж, адзначае юбілеі арганізацый беларусаў замежжа. Так, сёлета 70-годдзе адзначалі сябры Беларуска-Амерыканскага Задзіночання і 30-годдзе – Беларуска-Эстонскае Згуртаванне ("БЭЗ"). На апошнім мерапрыемстве Згуртаванне прадстаўляла старшыня Рады Ніна Шыдлоўская, а творчым падарункам БЭЗу ад "Бацькаўшчыны" стаў выступ этнамузыколага і спявачкі Ірэны Катвіцкай.

Але гэта, канешне, не ўсё, таму прапануўваем пазнаёміцца, што яшчэ ў нас атрымалася зрабіць з вашай дапамогай.

### Удасканаленне заканадаўства

Яшчэ ў сакавіку 2018 года на просьбу Нацыянальнага цэнтра заканадаўства і прававых даследаванняў Беларусі "Бацькаўшчына" падрыхтавала дакумент з прапановамі па ўдасканаленні заканадаўства краіны ў сферы зносін з беларусамі замежжа. Прапановы занялі 13 старонак (з імі можна пазнаёміцца на нашым сайце) і тычыліся закона "Аб беларусах замежжа", "Аб сродках масавай інфармацыі", "Аб грамадзянстве", а таксама статуту Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі і кодэксаў Рэспублікі Беларусь "Аб культуры" і "Аб адукацыі".

У 2019 годзе Згуртаванне атрымала зваротную рэакцыю. Паводле інфармацыі ад Нацыянальнага цэнтру заканадаўства прапановы "Бацькаўшчыны" будуць разгледжаныя на пасяджэнні рабочай групы па падрыхтоўцы праекта Закона Рэспублікі Беларусь "Аб змяненні Закона Рэспублікі Беларусь "Аб грамадзянстве Рэспублікі Беларусь". Прапановы ж па карэкціроўцы згаданых кодэксаў будуць разгледжаны пры наступным іх комплексным змяненні.

У атрыманым адказе таксама адзначана, што з 23-х арганізацый, якія атрымалі магчымасць дасылаць прапановы ў заканадаўства, "Бацькаўшчыне" належыць асноўная колькасць заўваг.

У лістападзе 2019 года Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына" накіравала ў Міністэрства замежных спраў Рэспублікі Беларусь прапановы ў дзяржаўную праграму "Беларусы ў свеце" (2021–2025 гг.).

**Працяг на старонцы 2.**

навіны ЗБС "Бацькаўшчына"

# 2019 ГОД З "БАЦЬКАЎШЧЫНАЙ"

Працяг са старонкі 1.

Да працы над гэтым дакументам Згуртаванне прыступіла на просьбу МЗС у часе сёлетняга пасяджэння Кансультатыўнага савета па справах беларусаў замежжа. У аснову дакумента пакладзеныя прапановы дыяспары, агучаныя на з'ездах беларусаў свету, а таксама аналіз пасьпяховага досведу іншых унітарных краін у галіне двухбаковага супрацоўніцтва са сваімі дыяспарамі. Асаблівая ўвага ў дакуменце надаецца захадам, скіраваным на захаванне і паглыбленне нацыянальнай ідэнтычнасці беларусаў замежжа, а таксама на ўключэнне беларускага замежжа ў развіццё розных сфер.

Разам з гэтым відавочна, што без наўпростых заўваг тых, хто непасрэдна зацікаўлены ў развіцці стасункаў Беларусі і беларускай дыяспары, гэтыя прапановы не могуць прэтэндаваць на поўны ахоп усіх наяўных праблем. Таму згаданыя прапановы выкладзеныя на сайце Згуртавання, а таксама вынесеныя на меркаванне сябраў Вялікай Рады.

### Гісторыя і культура

Два разы на месяц "Бацькаўшчына" публікавала матэрыялы і гутаркі, прысвечаныя актыўным прадстаўнікам беларускай дыяспары. Акцэнт пры гэтым сёлета рабіўся не на іх грамадскую дзейнасць (пра якую Згуртаванне традыцыйна шмат піша), а на прафесійныя дасягненні нашых суродзічаў. Праз гэтыя артыкулы мы хацелі паказаць высокі прафесійны ўзровень нашых суайчыннікаў, а таксама распавесці пра асаблівасці працы ў іншых краінах.

Напачатку года, зважаючы на блізкі па часе перапіс насельніцтва, "Бацькаўшчына" ўвайшла ў арганізацыйны камітэт кампаніі "Беларускамоўны", высілкі якой былі скіраваныя на тое, каб людзі аддавалі перавагу беларускай мове, адказваючы на адпаведныя пункты анкеты перапісу. Згуртаванне лічыць гэта важным, бо выніки адказаў, на нашу думку, аказваюць уплыў на самыя розныя аспекты дзяржаўнай палітыкі, а існуючы стан беларускай мовы ў Беларусі відавочны.

Ёсць пэўны плён і ад працы Арганізацыйнага камітэта па ўсталяванні помніка беларусам – праведнікам народаў свету, куды ўвайшло і кіраўніцтва "Бацькаўшчыны". У лютым Таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры атрымала згоду ад Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь на працу па стварэнні мемарыяльнага знаку беларусам – праведнікам свету. Аднак гэтага ў нашай бюракратычнай краіне мала. З якімі перашкодамі у гэтай справе Арґкамітэт сутыкаецца, падрабязней распавёў сябра нашай Рады Юрась Меляшкевіч.

Сакавік – час, калі беларусы ва ўсім свеце традыцыйна святкуюць абвяшчэнне незалежнасці Беларускай Народнай Рэспублікі. Сёлетняе святкаванне 101-й гадавіны БНР у розным фармаце адбывалася не толькі ў розных гарадах самой Беларусі, але і ў Вялікабрытаніі, Канадзе, Новай Зеландыі, Літве, Польшчы, Украіне, ЗША, Ізраілі. "Бацькаўшчына" старалася як мага больш поўна інфармаваць пра ход святкавання ў гэтых ды іншых краінах.

У чэрвені, на 95-годдзе Васіля Быкава, народнага пісьменніка і першага прэзідэнта Згуртавання, кіраўніцтва "Бацькаўшчыны" разам з Саюзам беларускіх пісьменнікаў ушанавала яго памяць ускладаннем кветак на Усходніх могілках, дзе ён пахаваны.

У ліпені "Бацькаўшчына" ўзяла ўдзел у пасяджэнні Кансультатыўнага савета па справах беларусаў замежжа ў Міністэрстве замежных спраў. , на якім было агучана пра пачатак збору прапаноў у дзяржаўную праграму "Беларусы ў свеце (2021–-2025 гг.)", пра што распавядалася трошкі раней. У кастрычніку ЗБС "Бацькаўшчына" падпісалася пад "Зваротам беларускай грамадскасці наконт беларускай мовы", выказаўшы заклапочанасць неспрыяльным станам у Беларусі для яе функцыянавання.

Сёлетняя восень была адзначана грандыёзнай падзеяй для беларусаў усяго свету – 22 лістапада на віленскіх могілках Росы адбылося перапахаванне парэшткаў паўстанцаў 1863–1864 гг., знойдзеных і ідэнтыфікаваных летась падчас раскопак на гары Гедыміна ў Вільні (Літва). Разам з шматлікімі ўдзельнікамі, сярод якіх былі прадстаўнікі ўрадаў Літвы, Польшчы, ураду Беларускай Народнай Рэспублікі ў выгнанні і тысячы беларусаў, у перапахаванні бралі ўдзел і прадстаўнікі "Бацькаўшчыны".

Разам з Саюзам беларускіх пісьменнікаў і Беларускім ПЭН-Цэнтрам, пры падтрымцы Фонду культуры і адукацыі Орса-Рамана і Харытатыўнага фонду Згуртавання беларусаў Вялікай Брытаніі, ЗБС "Бацькаўшчына" ўдзельнічала ў правядзенні прэміі імя Наталлі Арсенневай. Пераможцай стала паэтка Марыя Мартысевіч, а другое месца атрымала Надзея Артымовіч, беларуская паэтка з Падляшша.

### Выдавецкая дзейнасць

Разам з Беларускім Інстытутам Навукі і Мастацтва ў 2019 годзе ў серыі "Бібліятэка Бацькаўшчыны" быў падрыхтаваны шэраг выданняў:

- Зміцер Саўка "Беларуская цывілізацыя ў Амерыцы", прысвечаная пяцідзесяцігадоваму агляду гісторыі дзейнасці Беларуска-Амерыканскага Задзіночання, найстарэйшай і найбуйнейшай беларускай арганізацыі ў ЗША;
- "Газеты "Бацькаўшчына" і "Беларус": Дзве душы – адзін лёс" (падсерыя: "Спадчына: агледзіны"; укладальнікі – Наталля Гардзіенка і Лявон Юрэвіч), прысвечаная легендарным найбуйнейшым перыёдыкам беларускага замежжа, газетам з аднайменнымі назовамі, якія выходзілі ў Мюнхене (Нямеччына) і Нью-Ёрку (ЗША);
- "Зора Кіпель" (падсерыя "Людзі эміграцыі"; укладальнікі – Наталля Гардзіенка і Лявон Юрэвіч) – разгорнуты аповед пра жыццё славутай навукоўкі, дзяячкі беларускага замежжа, а таксама яе выбраныя тэксты, падрабязная бібліяграфія і вялікая колькасць фотаздымкаў;
- Рыгор Барадулін "Дзённікі і запісы. Выпуск 6: 1992–1993" (падсерыя "Людзі Беларусі") – і працяг, калі верыць укладальніцы Наталлі Давыдзенка, яшчэ будзе.

У Мінску прайшлі прэзентацыі "Газеты "Бацькаўшчына" і "Беларус" і "Беларускай цывілізацыі ў Амерыцы" (апошняя – пры аншлагу, з прычыны знакавасці асобы Змітра Саўкі, які заўчасна пайшоў з жыцця, для сучаснай беларускай культуры). Кніга "Зора Кіпель" прэзентавалася ў Нью-Ёрку з удзелам сябра Управы "Бацькаўшчыны" Наталлі Гардзіенка.

Акрамя гэтага, ЗБС "Бацькаўшчына" дапамагала з арганізацыяй прэзентацый кнігі паэзіі беларускага паэта з Канады Юрася Шамецькі "Непрадказальнае" і анталогіі перакладаў беларускай паэзіі на італьянскую мову Ларысы Пуцьлевай.

Увосень, пры арганізацыйнай дапамозе Згуртавання, пабачыў свет альбом "БНР-100: Сьвяткаваньне 100-гадовага юбілею ў Беларусі і ў замежжы". Само ж выданне зробленае пры падтрымцы арганізацый беларусаў замежжа – Рады БНР, Фундацыі культуры і адукацыі Орса-Рамана і Фундацыі імя Пётры Крачэўскага.

Аб'яднаўшы высілкі з грамадскім дзеячам Глебам Лабадзенкам, "Бацькаўшчына" ўдзельнічае ў выданні амаль 900-старонкавай кнігі ўспамінаў Радзіма Гарэцкага.

### Уганараванні

2019 год быў шчодры на заслужаныя ўзнагароды для сяброў "Бацькаўшчыны".

На сённяшні дзень Рада Беларускай Народнай Рэспублікі ўзнагародзіла Медалём да стагоддзя БНР палову складу дзеючай Рады "Бацькаўшчыны", 24 чалавекі, і гэта, па ўсім відаць, яшчэ не фінал, бо яшчэ не ўсе медалі ўручаныя.

А два сябры Рады сёлета атрымалі ордэны. Так, у лютым кавалерам Ордэну Белай зоркі стала Зінаіда Клыга, кіраўніца Беларуска-Эстонскага Згуртавання, атрымаўшы ўзнагароду з рук прэзідэнткі Эстоніі Керсьці



Калюлайд.

У красавіку ордэн "Gloria Muncii" атрымаў старшыня Беларускай абшчыны Рэспублікі Малдова Юрый Статкевіч. Узнагароду яму ўручыў прэзідэнт Малдовы Ігар Дадон. Намеснік Юрыя Статкевіча, вядомы беларускі мастак Вячаслаў Ігнаценка, у той самы дзень атрымаў медаль і званне ганаровага майстра мастацтваў.

### Страты

Але былі сёлета і сумныя старонкі. Беларусь страціла перакладчыка Васіля Сёмуху і пісьменніка Леаніда Дайнеку. Беларуская Канада ў красавіку развіталася з Вольгай Грыцук, а беларуская Аўстралія – з Аўгенам Грушам. Жахлівая трагедыя напаткала сябра нашай Рады Дзмітрыя Плакса, які страціў сына.

Да гадавіны смерці Арсеня Ліса і чацвёртую гадавіну сыходу Анатоля Грыцкевіча "Бацькаўшчына" адмыслова падрыхтавала артыкулы.

Таксама Згуртаванне дапамагала збіраць сродкі на помнік беларускаму грамадскаму дзеячу ў Літве Хведару Нюньку – помнік на сёння ўжо ўсталяваны сваякамі.

### Будзьма беларусамі!

Дзейнасць грамадскай культурніцкай кампаніі "Будзьма беларусамі!" сёлета зазнала пэўную трансфармацыю.

На пачатку года чатырма ток-шоў – у Віцебску, Оршы, Наваполацку і Светлагорску, – двухдзённым трэнінгам у Мінску і правядзеннем прэсклубаў у абласных цэнтрах краіны завяршыўся чарговы значны этап дзейнасці кампаніі ў межах трохгадовай рэгіянальнай праграмы "Разам да справы!". Яе вынікам стала заўважнае павелічэнне колькасці мясцовых грамадскіх ініцыятыў і павышэнне даверу да іх з боку мясцовых адміністрацый – гэты факт быў пацверджаны сацыялагічным апытаннем і фокус-групамі, праведзенымі на замову "Будзьма беларусамі!" і Цэнтра даследавання грамадскага кіравання "СІМПА" сацыялагічнай лабараторыяй "Новак".

У сакавіку пабачыла свет аналітычнае выданне "Узаемадзеянне мясцовых органаў улады і некамерцыйных арганізацый у Беларусі: прававое рэгуляванне і практыка", падрыхтаванае экспертамі Вольгай Смалянка (Цэнтр прававой трансфармацыі) і Юрыем Чавусавым (Асамблея НДА), таксама на замову "Будзьма беларусамі!" і "СІМПА". Кампанія "Будзьма!" паклапацілася, каб рэкамендацыі, якія ў ёй утрымліваюцца, дайшлі да адрасатаў – міжнародных арганізацый, дзяржаўных органаў і грамадзянскай супольнасці. Дзяржаўным інстытуцыям, недзяржаўным беларускім і міжнародным арганізацыям былі дасланыя папяровыя версіі кнігі. Электронная форма выдання даступная на сайце budzma.by.

Адначасова з заканчэннем рэгіянальнай праграмы ў красавіку "Будзьма беларусамі!" распачала новы праект – "Маё права". Ён арыентаваны на дзяцей малодшага школьнага ўзросту і падлеткаў і мае на мэце пашыраць іх веды пра свае правы і магчымасці. Шэраг публікацый і відэаматэрыялаў, створаных адмыслова да гэтага праекту, закранаюць самы шырокі спектр з'яў, звязаных з правамі непаўнагадовых, у тым ліку такіх як булінг, гвалт і цкаванне ў навучальных установах, праблемы, звязаныя з адстойваннем асабістай прасторы, рэгуляцыя стасункаў з настаўнікамі і бацькамі, а таксама розная кшталту дыскрымінацыя.

Ад пачатку кампаніі было праведзена 26 інтэрактыўных гульняў, 2 клубы і 1 дыскусія. Мерапрыемствы ў гэтых фарматах яшчэ працягваюцца. Таксама зроблена адмысловая размалёўка для дзяцей малодшага школьнага ўзросту і тэматычны комікс для падлеткаў з 12-ці выпускаў.

Новы кірунак у дзейнасці Кампаніі – сур'ёзная праца па манетызацыі брэнду "Будзьма беларусамі!" з тым, каб у перспектыве падтрымліваць дзейнасць кампаніі. У траўні і кастрычніку прайшлі цыклы платных майстар-класаў па вырабу керамічных сувеніраў "Беларускія рамёствы. Традыцыі і сучаснасць" і "Чароўныя далонькі" адпаведна. У снежні была запушчана інтэрнэт-крама **budzma-krama.by**, у якой можна набыць адзенне і сувеніры са стылізаванай нацыянальнай сімволікай і на нацыянальную тэматыку. Цягам 2019 года кампанія "Будзьма беларусамі!" у супрацоўніцтве з Саюзам беларускіх пісьменнікаў ладзіць шматлікія сустрэчы з творцамі ў розных кутках Беларусі, інфармацыя пра іх, як і раней, рэгулярна публікуецца на інфармацыйным рэсурсе Кампаніі.

Асноўная дзейнасць кампаніі "Будзьма беларусамі!" працягвае скіроўвацца ў рэгіёны, дзе важна павышаць грамадскую актыўнасці і ініцыятыўнасць людзей.

З рэзанансная ў Мінску: 29 чэрвеня ў дворыку Нацыянальнага гістарычнага музея адбыўся фестываль для дзяцей "Вандроўка ў дзівосны сад", дзе маленькіх наведнікаў чакала гульня-спектакль "Хто расце ў садзе?", розныя конкурсы і майстар-класы.

Варта адзначыць асобна супольны праект кампаніі "Будзьма беларусамі!", Дзяржаўнага музея гісторыі беларускай літаратуры і Саюза беларускіх пісьменнікаў – адкрыццё літаратурнай гасцёўні "Будзьма з кнігай!". Мэта гэтага праекту – стварэнне прасторы для камерных сустрэч на літаратурныя тэмы.

Як і раней, "Будзьма!" пры канцы году выдала чарговы выпуск календара "Не маўчы па-беларуску", гэтым разам на экалагічную тэматыку.

Улічваючы сучасныя трэнды, кампанія "Будзьма!" шмат увагі і высілкаў аддае анлайн актыўнасці, не толькі аператыўна асвятляючы розныя культурніцкія і грамадскія падзеі, але і ўздымаючы тэмы, якія важныя для скіравання свядомасці людзей у нацыянальна арыентаванае рэчышча.

**Інфармацыйны цэнтр МГА "ЗБС "Бацькаўшчына"**



Кіраўніца "Бацькаўшчыны" Алена Макоўская, старшыня Згуртавання беларусаў Вялікабрытаніі Мікалай пачкаеў і старшыня Рады "Бацькаўшчыны" Ніна Шыдлоўская падчас уручэння Медалёў БНР.

# ЗАЯВА РАДЫ МГА "ЗГУРТАВАННЕ БЕЛАРУСАЎ СВЕТУ "БАЦЬКАЎШЧЫНА" Ў АБАРОНУ СУВЕРЭНІТЭТУ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына" ад пачатку восені 2019 года, калі ў беларускай медыйнай прасторы загучалі словазлучэнні "паглыбленне інтэграцыі" і "дарожныя мапы", з моцнай трывогай сочыць за звязанымі з гэтай з'явай падзеямі ўнутранай і знешняй палітыкі.

Праблемы, звязаныя з пытаннямі далейшага супрацоўніцтва Рэспублікі Беларусь і Расійскай Федэрацыі ў сферах энергетыкі, доступу да рынкаў, і, у асаблівай ступені, з пытаннямі, звязанымі з уніфікацыяй мытнага і падатковага заканадаўства абедзвюх краін, не прайшлі па-за ўвагай палітычна свядомай часткі беларускага грамадства. Атмасфера закрытасці, якой суправаджаецца ўзгадненне гэтых пытанняў на найвышэйшым міжджяржаўным узроўні, спараджае ў грамадстве моцную перасцярогу адносна пагрозы дзяржаўнаму суверэнітэту і не спрыяе палітычнай стабілізацыі беларускага грамадства.

Гэтак, 7 і 8 снежня ў сталіцы Рэспублікі Беларусь Мінску прайшлі вулічныя акцыі, падчас якіх неабыякавыя прадстаўнікі грамадзянскай супольнасці, палітычных партый і рухаў пратэставалі супраць так званага "паглыблення інтэграцыі", патрабуючы абнародаваць працоўныя дакументы і прыпыніць згаданыя знешнепалітычныя працэсы.

Як грамадская арганізацыя, адна з найгалоўнейшых статутных задач якой – спрыяць захаванню Беларусі як суверэннай дзяржавы, ЗБС "Бацькаўшчына", кіруючыся падтрыманай на Чацвёртым з'ездзе беларусаў свету дэкларацыяй "Аб падтрымцы Акта незалежнасці, прынятага Усебеларускім з'ездам 29 ліпеня 2000 г. у г. Мінску", выказвае салідарнасць з сутнасцю ужо агучаных заяў у абарону суверэнітэту Беларусі і заклікае:

• беларускія ўлады – да абнародавання ўзгодненых на сённяшні дзень пунктаў "дарожных мапаў" і, у выпадку іх разыходжання з дэклараванымі ў Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь пунктамі аб дзяржаўным суверэнітэце краіны, неадкладна скасаваць іх і спыніць працэс узгаднення пунктаў "паглыблення інтэграцыі" на ўсіх узроўнях;

• беларускае грамадства – не абмінаць увагай імаверную пагрозу суверэнітэту нашай краіны, актывізаваць публічнае праяўленне свайго стаўлення да гэтага найважнейшага пытання далейшага існавання беларусаў як народу, кансалідавацца для яе вырашэння згодна з дэклараванымі ў Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь пунктамі аб дзяржаўным суверэнітэце краіны;

• беларусаў замежжа – выкарыстоўваючы ўсе даступныя сродкі і магчымасці данесці да ўрадаў краін свайго пражывання важнасць захавання незалежнасці Беларусі, а таксама падтрымаць высілкі беларускіх грамадзян у адстойванні суверэнітэту нашай краіны.

**г. Мінск,**
**18 снежня 2019 г.**

**навіны**

# “МЫ ТАК ПРОСТА БЕЛАРУСЬ НЕ АДДАДЗІМ”. У КІЕВЕ ПРАЙШЛА АКЦЫЯ СУПРАЦЬ ІНТЭГРАЦЫІ З РАСІЯЙ

7 снежня ў цэнтры Кіева прайшла акцыя падтрымкі незалежнасці Беларусі. Беларусы Украіны рашуча выступілі супраць падпісання новых інэграцыйных дакументаў паміж Расіяй і Беларуссю.

Удзельнікі акцыі, сярод якіх былі беларускія і ўкраінскія актывісты, сабраліся на Майдане, адкуль у прызначаны час пачаўся рух да беларускай амбасады. Непасрэдна каля амбасады адбыўся пікет. У сваіх прамовах удзельнікі акцыі выказалі салідарнасць з беларускім народам. Беларусы і ўкраінцы супольна адзначылі, што інтэграцыя з Расіяй будзе сапраўдным злом і поўнай стратай нацыянальнай незалежнасці для Беларусі, якая можа стаць чарговай федэральнай акругай РФ. Былі разгорнутыя плакаты з лозунгамі “Беларусь – не Расія”, “Каму Лука бацька, таму Ху#ло дзядзька”, а таксама плакат з Пуціным і Лукашэнкам са словамі “Два боты пара”. Напрыканцы акцыі былі знішчаныя сімвалы расійскай акупацыі Беларусі: расійскі сцяг і партрэт Пуціна.

**Вікторыя Лаўнікевіч, novychas.by**






# У ВІЛЬНІ АДБЫЎСЯ ПІКЕТ СУПРАЦЬ ІНТЭГРАЦЫІ БЕЛАРУСІ І РАСІІ

У пікеце ўзялі ўдзел беларусы і прадстаўнікі іншых краін, салідарныя з Беларуссю.

У Вільні адбыўся пікет пад назовам “НЕ інтэграцыі Беларусі і Расіі!”. Яго зладзілі беларусы, якія пражываюць у Вільні. Адна з суарганізатарак Вікторыя Андруковіч.

Каля расійскай амбасады ў скверы Барыса Нямцова сабралася больш за 40 чалавек, у асноўным беларусы. Таксама да пікету далучыліся сябры з Літвы і Расіі, салідарныя з беларусамі, якія не жадаюць няроўнай і рызыкоўнай інтэграцыі.

Для многіх, як вынікала з прамоў, удзел у пікеце – гэта да ўсяго было пытанне сумлення і сімвалічнай значнасці такіх акцый.

Цікава, што да пікету потым далучыліся беларускія турысты, якія ў выходныя проста апынуліся ў Вільні.

Галоўным слоганам стаў кліч, які шмат лунаў у скверы: “Беларусь – не Расія”.

**Уладзіслаў Гарбацкі, novychas.by**

# ПІКЕТ У АБАРОНУ НЕЗАЛЕЖНАСЦІ БЕЛАРУСІ АДБЫЎСЯ Ў НЬЮ-ЁРКУ

Беларус Вадзім Васільеў пікетаваў генконсульства Расіі ў Нью-Ёрку.

“Я не мог застацца ў баку ад беларускага народа, які сёння выйшаў на Плошчу змагацца за сваю незалежнасць, на Плошчу Вольных Людзей. Таму я тут, ля расійскай амбасады ў Нью-Ёрку, каб выказаць свой пратэст”, – напісаў Вадзім Васільеў на сваёй старонцы ў фэйсбуку.

“Бо я табе з-пад шыбеніцы кажу, Народзе, што тагды толькі зажывеш шчасліва, калі над табою Маскаля ўжэ не будзе”. Гэта апошнія словы перад смерцю Кастуся Каліноўскага, які жыццё аддаў за Свабоду Беларусі. А сёння антынародны рэжым на чале з Лукашэнкам спрабуе на нас накінуць рускае ярмо”, – дадаў актывіст.

**novychas.by**



# БЕЛАРУСЫ Ў БРУСЕЛІ ПРАТЭСТАВАЛІ СУПРАЦЬ ІНТЭГРАЦЫІ З РАСІЯЙ




З мэтай інфармавання еўрапалітыкаў аб тым, што ў найбліжэйшы час паміж кіраўнікамі Пуцінам і Лукашэнкам будзе падпісана ганебная дамова, якая пазбавіць Беларусь незалежнасці і суверэнітэту, беларускімі актывістамі Беларуска-Еўрапейскага задзіночання пры падтрымцы раднага БНР быў зладжаны інфармацыйны пікет насупраць будынка Еўракамісіі.

Да Беларускіх эмігрантаў таксама далучыліся актывісты таварыства Украінцаў Бельгіі.

**Паводле "Беларуска-Еўрапейскага задзіночання"**

# АКЦЫЯ СУПРАЦЬ ІНТЭГРАЦЫІ Ў МАСКВЕ

Ля беларускай амбасады ў Маскве 8 снежня адбыўся адзіночны пікет супраць інтэграцыі Беларусі і Расіі.

Удзельнік акцыі анархіст Косця Мкртчан патлумачыў “Новаму Часу”: “Я выйшаў з пікетам таму што адгукнуўся на заклік, які прагучаў падчас акцыі на Кастрычніцкай плошчы. Я хацеў паказаць, што і ў нашай краіне ёсць тыя, хто супраць інтэграцыі. “Інтэграцыяй” называюць кулуарныя махінацыі, якія хочуць падаць як “паляпшэнне добрасуседскіх адносін”. Але сапраўдная мэта не зразумела, і я стаўлюся да гэтага з вялікай асцярогай.

У людзей, якія жывуць у нашых краінах, вельмі шмат праблем з дзеючым рэжымам. Нашы рэжымы маюць патрэбу ў рэальнай трансфармацыі, а не ў паддыванавай “інтэграцыі”. Нічым добрым яна не скончыцца.

Я спадзяюся, што ніякай інтэграцыі не будзе. Не хацелася б, каб улада так па-дурному падштурхоўвала народ да крывавай рэвалюцыі”.

**novychas.by**



# У ПРАЗЕ БЕЛАРУСЫ ЛАДЗІЛІ ПІКЕТ СУПРАЦЬ ІНТЭГРАЦЫІ З РАСЕЯЙ

8 снежня на Старамесцкай плошчы ў цэнтры Прагі на мітынгу супраць паглыбленай інтэграцыі з Расіяй сабралася каля 30 беларусаў і некалькі ўкраінцаў.

Арганізатарка пікету Кацярына Парыжаская, студэнтка аднаго з чэшскіх універсітэтаў, кажа, што выйшла перш за ўсё, каб падтрымаць людзей, якія пратэстуюць у Мінску.

"Нам, беларусам за мяжой, не ўсё роўна, што адбываецца ў нашай краіне", – растлумачыла Парыжаская "Свабодзе".

Украінкі Таццяна і Зіна кажуць, што ім важна падтрымаць беларусаў, бо яны не хочуць, каб Расія забірала тэрыторыі незалежных краін. "Ужо абрыдла тое, як сябе паводзіць Расія. Яна адняла Крым, адняла Данбас, а цяпер хоча адняць і Беларусь, – кажа Таццяна. – Я лічу, што трэба паказаць, што мы супраць гэтага, што мы хочам гэта спыніць. Як па мне, то гэтая падтрымка паміж краінамі вельмі важная".

На плошчы, дзе сабраліся беларусы, было шмат турыстаў. Яны падыходзілі і з цікавасцю пыталіся, чаму людзі выйшлі на пікет.

На мітынг прыйшлі беларусы рознага ўзросту, хапала моладзі.

Ганна, два Сержукі і Аляксандр з'ехалі з Беларусі, каб атрымаць у Чэхіі вышэйшую адукацыю, але часта ездзяць на бацькаўшчыну.




"Каб наша ўлада ведала, што мы існуем", – адказаў Аляксандр на пытанне, чаму для яго важна было выйсці на пікет.

"Калі ёсць хоць нейкая магчымасць нешта зрабіць, нават проста пастаяць і такім чынам выказацца, трэба ёй карыстацца", – дадала Ганна.

Маладыя людзі дадалі, што ў свеце шмат хто думае, што Беларусь – гэта частка Расіі.

"Мы хочам пастаяць тут, каб людзі зразумелі, што адбываецца паміж Беларуссю і Расіяй. Яны паглядзяць, можа, штосьці пагугляць і будуць ведаць", – патлумачыў Сяржук.

Акцыя беларусаў у Празе была дазволеная мясцовымі ўладамі.

**НБ, svaboda.org**

# БЕЛАРУСЫ Ў КАНАДЗЕ СУПРАЦЬ ІНТЭГРАЦЫІ БЕЛАРУСІ Ў РАСІЮ

7 снежня Згуртаванне Беларусаў Канады зарганізавала ў Таронта, Канада, пікет супраць інтэграцыі Беларусі з Расіяй. Нягледзячы на сапраўднае зімовае снежнае надвор'е беларускія актывісты прыйшлі да Беларускага Цэнтру, які стаіць на зямлі, што належыць Парафіі Св. Кірылы Тураўскага ў Таронта (БАПЦ).

Сімвалічна, што падчас пікетавання над удзельнікамі лунаў вялізны бел-чырвона-белы сцяг, што стаўся пранесеным беларусамі Канады па вуліцах Вільні 22 і 23 лістапада падчас ўрачыстасцяў па пахаванню Герояў вызвольнага паўстання 1863-1864 гг. У пікеце ўзялі ўдзел Старшыня Галоўнай Управы ЗБК доктар Алена Лявончанка, Старшыня Канадыйскага Сектару Рады БНР Алесь Кот, актывісты Згуртавання. Падчас пікетавання Алесь Кот меў кароткую прамову.




Усе удзельнікі пікету атрымалі ў падарунак па два вялікіх значкі, што сталіся прэзентаванымі спецыяльна беларусам Канады – удзельнікам ўрачыстага пахавання Герояў-Каліноўцаў – прадстаўнікамі Беларускага Грамадскага Камітэту ў Вільні 22 лістапада.

**Алесь Кот, novychas.by**

# У САЎТ-РЫВЕРЫ ЎШАНАВАЛІ СЛУЦКІ ЗБРОЙНЫ ЧЫН ДЫ ВЫКАЗАЛІСЯ СУПРАЦЬ "ІНТЭГРАЦЫІ"

8 снежня ў Беларуска-амерыканскім цэнтры ў Саўт-Рыверы адбылося ўшанаванне памяці паўстанцаў Слуцкага збройнага чыну 1920 года.

У Саўт-Рыверы, што з'яўляецца адным з цэнтраў беларускай эміграцыі ў ЗША, ушанавалі памяці паўстанцаў Слуцкага збройнага чыну 1920 года. Адбылося адкрыццё Алеі Змагарам за Вольную Беларусь.

Беларусы правялі таксама мітынг-пратэст супраць падпісання інтэграцыйных пагадненняў паміж Беларуссю і Расіяй.

На мітынгу было адзначана, што, на жаль, цяпер грамадзянская супольнасць у Беларусі пазбаўленая магчымасці ўплываць на працэс падрыхтоўкі і падпісання засакрэчаных дакументаў па„"пашырэнні інтэграцыі" паміж Беларуссю і Расіяй:

"Мы, беларусы Амерыкі, лічым сваім абавязкам данесці да міжнароднай супольнасці факт заключэння нелегітымнай ўладай у Беларусі дамоў з Расіяй, якія наўпрост пагражаюць Беларусі стратай суверэнітэту. Слава Айчыне! Жыве Беларусь!"

З канца 19 стагоддзя славянскае насельніцтва беларускіх зямель пачало эміграваць пераважна ў Саўт-Рывер. Найбольшы прырост беларускага насельніцтва горад атрымаў у 1950-х гадах, пасля заканчэння Другой сусветнай вайны.

**Вадзім Васільеў, novychas.by**



гутарка

# Пётра Мурзёнак: БЕЛАРУС, ЯКІ ВЫЗНАЕ СЯБЕ БЕЛАРУСАМ, НЕ МОЖА БЫЦЬ ВОРАГАМ

Чым ёсць незалежнасць? Як яе захаваць? Ці магчымая ў сучасным свеце незалежная дзяржава, не абцяжараная саюзамі і блокамі?.. Пытанні са своеасаблівай "Анкеты Незалежнасці" мы вырашылі задаць лідару беларускай дыяспары ў Канадзе Пятру Мурзёнку.

Пётра Мурзёнак – доктар медыцынскіх навук. Разам з сям'ёй жыве ў Канадзе з 1998 года. Заснавальнік і рэдактар вэб-часопіса "Культура. Нацыя". Аўтар дзвюх публіцыстычных кніг: "Шляхі да беларускай нацыі" і "Чым трэба ганарыцца кожнаму беларусу", а таксама чатырох зборнікаў вершаў.

Сп. Пётра займае актыўную пазіцыю ў беларускім жыцці ў замежжы. З'яўляецца старшынёй Беларускага інстытута навукі і мастацтваў у Канадзе, а таксама старшынёй Атаўскага аддзела Згуртавання беларусаў Канады.

**– Чым для Вас ёсць незалежнасць Беларусі?**

– Незалежнасць Беларусі – гэта каштоўнасць, якая дазваляе адчуваць гонар за радзіму. Ад таго, што яна існуе роўная сярод роўных у свеце. Ад таго, што беларускія грамадзяне напоўніцу карыстаюцца правамі і свабодамі, гарантаванымі Канстытуцыяй. З фармальнага пункту гледжання Беларусь ёсць незалежнай краінай, але ж па сутнасці?.. Што трэба, каб краіна сапраўды сталася такой? Беларусі трэба пазбавіцца палітычнай, эканамічнай і культурнай залежнасці ад Расіі.

**– Чаму гэта звязана з Расіяй?**

– Гэта стане відавочным і зразумелым любому беларусу, калі ён уважліва паглядзіць на Украіну, а не будзе знаходзіцца пад уплывам маскоўскай прапаганды, што "Крым наш". Калі б не спрадвечны агрэсіўны характар Расіі, адносіны з ёй мусілі б быць цывілізаванымі, як і з іншымі краінамі. Другім важным аспектам незалежнасці краіны з'яўляецца свабода: палітычная, эканамічная, асабістая, рэлігійная ды інш. Але ў першую чаргу – свабода нацыянальная. Усе гэтыя свабоды прапісаныя ў Канстытуцыі, але, на жаль, ва ўмовах аўтарытарнага рэжыму не могуць быць выкананыя. Людзі, якія не маюць усіх гэтых свабод, ніколі не будуць імкнуцца да незалежнасці сваёй краіны. Каб Беларусь стала пасапраўднаму незалежнай, яна павінная вырвацца з-пад каланіяльнага ўплыву Расіі і ўсталяваць у краіне дэмакратычныя нормы.

**– Калі Вы асабіста прыйшлі да ўсведамлення каштоўнасці незалежнасці? Як гэта адбылося?**

– Дакладна не раней за 1990 год. Канкрэтным плёнам гэтага ўсведамлення былі артыкулы па нацыянальных пытаннях у "Звяздзе" ў пачатку




1990-х, стварэнне гуртка беларускай мовы на працы, выступы на роднай мове на паседжаннях вучонага савета ў Інстытуце фізіялогіі НАН РБ (1992–1997). Сябры савета, дарэчы, былі здзіўленыя. Найбольшы гонар за незалежнасць я адчуў, калі выпадкова апынуўся ля будынка Дома ўрада ў Мінску ў момант, калі на яго ўсталёўвалі новы дзяржаўны герб "Пагоня". Такі ж гонар я адчуваў, калі ў родных Паставах на будынку райвыканкама залунаў бел-чырвона-белы сцяг. Аднак што мяне тады насцярожыла на плошчы Леніна... Новы герб быў накладным! Ім нібыта часова прыкрылі стары дзяржаўны герб, які быў пастаўлены там ад пачатку, капітальна. Новы герб усталёўвалі не грунтоўна, нібыта сарамліва.

**– У 1991-м незалежнасць на беларусаў звалілася "як мех з бульбай", нечакана і бескаштоўна, ці гэта вынік шматлікіх цяжкіх намаганняў за доўгі час?**

– Выраз "як мех з бульбай" можа быць і адказам на пытанне. Атрыманню незалежнасці для Беларусі спрыяў шэраг фактараў, аднак у асноўным яны былі абумоўленыя знешнімі, а не ўнутранымі прычынамі. Паспрыялі распад СССР і КПСС. БССР была не адзінай рэспублікай Саюза, якая атрымала незалежнасць. Усе 15 рэспублік СССР цягам 1991 года (хто раней, хто пазней) заявілі аб сваёй незалежнасці. Беларусь была шостай. Цяжка сказаць, наколькі важкімі і вызначальнымі былі высілкі беларускіх нацыянальных сіл у атрыманні незалежнасці. Толькі ў Літве і Грузіі барацьба за незалежнасць была звязаная з праліццём крыві: тады ў савецкай улады яшчэ былі сіла і воля ўжыць рэпрэсіі супраць сваіх народаў. Для рэшты савецкіх рэспублік шлях да незалежнасці быў мірным.

**– Але ж былі "Майстроўня", "Талака", БНФ "Адраджэнне", забастоўкі працоўных...**

– Змаганне за незалежнасць найперш адлюстроўвае, як мне здаецца, парламенцкая праца дэмакратычна настроеных дэпутатаў, уключна з дэпутатамі ад БНФ. Відавочна, што яны прыклалі значныя намаганні як у прыняцці Дэкларацыі (27 ліпеня 1990 года), так і Закона аб дзяржаўным суверэнітэце Беларусі (25 жніўня 1991 года). Трэба, аднак, заўважыць, што Закон аб дзяржаўным суверэнітэце і пастанова аб часовым прыпыненні дзейнасці КПБ-КПСС на сесіі Вярхоўнага Савета БССР былі прынятыя аднагалосна (за – 256 дэпутатаў). Парадаксальна, але за прыняцце гэтых двух законаў прагаласавалі самі дэпутаты-камуністы, якія складалі абсалютную большасць ВС 12-га склікання. Атрыманне незалежнасці ў 1991 годзе было падарункам лёсу, а не вынікам змагання моцных партыйных структур ці шырокім рухам народных мас за нацыянальнае самавызначэнне. Тое, што лёгка далося, не цэніцца так, як трэба. Таму, відаць, і маем недасканалае стаўленне да незалежнасці краіны.

**– Дэмакратыя, фінансавы дабрабыт ці незалежнасць – што важнейшае для беларусаў? А для Вас асабіста?**

– Натуральна, што фінансавы дабрабыт стаіць на першым месцы, і не толькі ў беларусаў. Чалавек як істота біялагічная і сацыяльная імкнецца да таго, каб месца, дзе ён жыве, было ўтульным, каб там "усё вялося і былося". Сёння складана ўявіць, што незабяспечаны фінансава чалавек у першую чаргу засяродзіць свае думкі на паляпшэнні дэмакратыі ў краіне. Я жыву ў Канадзе, у краіне, дзе перада мной не стаіць праблема выбару, які з гэтых кампанентаў – дэмакратыя, фінансавы дабрабыт ці незалежнасць – найважнейшы. Аднак, як і абсалютная большасць людзей, лічу, што калі фінансавы дабрабыт ёсць, то ў чалавека з'яўляецца магчымасць займацца іншымі важнымі аспектамі жыцця. У прыватнасці, мяне цікавяць пытанні будаўніцтва і развіцця нацыянальнай беларускай дзяржавы.

**– Ці даводзілася Вам калі-небудзь тлумачыць суайчыннікам ці замежнікам каштоўнасць незалежнасці краіны?**

– Так, суайчыннікам – у асноўным праз артыкулы ў вэб-часопісе "Культура. Нацыя", заснавальнікам і рэдактарам якога я з'яўляюся з 2012 года. Аднак не ўсе суайчыннікі на радзіме, нават блізкія сябры, гатовыя ўспрымаць парады з далёкага замежжа... Што да замежнікаў, то даволі рэдка. У вольных краінах такое пытанне звычайна не паўстае. Разам з тым мы добра ведаем, што нягледзячы на негатыўныя адносіны ліберальных дэмакратаў да нацыянальных рухаў, яны не зніклі. Прыклады ёсць: змаганне за незалежнасць у Каталоніі, Шатландыі, Квебеку.

**Алесь Кіркевіч, budzma.by**

**Працяг гутаркі чытайце на сайце zbsb.org**

гутарка

# Крысціна Шыянок: НА КАНЦЭРЦЕ ВОЛЬСКАГА Ў ПРАЗЕ ЗРАЗУМЕЛА, ШТО СУМУЮ




Апошнія 10 гадоў Крысціна Шыянок жыве ў Чэхіі. Яна – судовая перакладчыца. Амаль 24 гадзіны на суткі яе могуць выклікаць у паліцыю альбо суд, каб перакладаць паміж беларускай, рускай і чэшскай. Вольны час дзяўчына прысвячае беларускай дыяспары: ад перакладаў выступаў гасцей з Беларусі да... арганізацыі "беларускага піва".

Крысціна нарадзілася ў Мінску, тата паходзіць з Віцебшчыны, мама – з Магілёўшчыны. Але жыць вырашана было ў Маладзечне. Тым не менш наша гераіня пераехала ў Мінск, каб вучыцца рускай філалогіі ў Ліцэі БДУ, а пасля – чэшскай і беларускай на філфаку БДУ. Валоданне чэшскай мовай і стала адной з падстаў для пераезду, але не адзінай. Зрэшты, пра ўсё па парадку.

### Адчуванне, што твае дзеянні не даюць плёну

**– Чаму ўсё ж ты вырашыла пераехаць? Чаму ў Прагу?**

– Гэта быў цэлы комплекс фактараў. Знайсці працу з чэшскай мовай у Беларусі было няпроста. Яшчэ калі вучылася на філфаку, я пачала сама выкладаць, запусціла курсы чэшскай у шэрагу мінскіх моўных школ. Але задавалася пытаннем: а што далей? Хацелася скараць вяршыні. Я паставіла мэту: знайсці сябе ў вусным перакладзе. Але для гэтага былі патрэбныя веды і, галоўнае, практыка. Беларусь гэтага даць не магла: на філфаку вусны пераклад адсутнічаў... Заставаўся варыянт Чэхіі. Вучыцца і зарабляць, каб жыць на нешта. Праца, амбіцыі, але было і іншае. Я з'ехала ў 2009-м, але думка з'явілася яшчэ ў 2006-м, пасля выбараў. Быў стан апатыі ў грамадстве. Адчуванне, што твае дзеянні не даюць плёну, не вядуць да жаданага выніку. Або той вынік па маштабах не адпавядае чаканням. Мне выпала ў той час паехаць на стажыроўку ў Прагу, дзе якраз праходзіла выстава "Выбары без выбару" пра пратэсты ў Мінску. Была ўражаная, наколькі ў Чэхіі свабоднае грамадства, якое мысліць. Божа, яны цікавяцца Беларуссю, з якой нават не мяжуюць! Я адчула, што хачу тут пажыць хаця б нейкі час.

**– То бок у 2009-м ты паехала вучыцца?**

– Калі пераехала, то мела статус студэнткі. Я паступіла на бакалаўрыят, хай і мела ўжо вышэйшую адукацыю. Адвучылася, першай спецыяльнасцю была міжкультурная камунікацыя, далей можна было ісці ў магістратуру, на пісьмовы і вусны пераклад. Так склалася, што я ўзяла яшчэ адну спецыяльнасць – выкладанне чэшскай як замежнай. У выніку я скончыла дзве магістратуры. Спачатку нельга было казаць пра частыя замовы на пераклад. Трэба было выбудаваць рэпутацыю, займець сталых кліентаў. Таму і пачала з выкладання чэшскай: рабіла тое, што ўмею. Для руска-беларуска-ўкраінскамоўных у розных школах. Ведаеш, калі вучыш студэнтаў, якія такія ж мігранты, як і ты, хутка збліжаешся: пазнаеш у іх эмоцыях, перажываннях свае, пачынаеш за іх перажываць... Было адчуванне вялікай сям'і, якую нельга кінуць. Толькі на трэці год свайго жыцця тут я змагла пачаць прысвячаць палову часу перакладам. Цяпер толькі перакладаю.

### Перакладчыку з ісландскай у Празе жылося б спакайней

**– Чаму ў выніку менавіта судовы пераклад?**

– Яшчэ перад пераездам, падчас стажыроўкі, я пазнаёмілася ў Празе з беларускай, якая займалася судовым перакладам. І захапілася! Наогул, некалі я хацела паступаць на міжнароднае права, але абрала філфак. Так ува мне і жыла нерэалізаваная юрыстка. Без ведання права якасны судовы пераклад немагчымы, таму я знайшла сваё! У Чэхіі назіраўся недахоп перакладчыкаў з беларускай мовы, то бок быў шанец. Так я сабе і паставіла новы выклік: здабыць пячатку судовай перакладчыцы.

**– Як гэта выглядае на практыцы? У судовай зале побач з суддзёй?**

– Па-першае, часцей побач з удзельнікамі працэсу, а па-другое, не толькі ў судах і паліцыі. Гэта можа быць і пісьмовы пераклад дакументаў, як, напрыклад, пасведчанне аб нараджэнні ці шлюбе. Для фізічных асоб таксама перакладаю вусна на вяселлях: калі нехта з пары не валодае чэшскай, то ЗАГС патрабуе, каб прысутнічаў судовы перакладчык. Часта даводзіцца перакладаць для МУС, для дэпартамента, які займаецца візамі і відамі на жыхарства. Прысутнічаю на праўдзенні допытаў, каб забяспечыць паўнавартасную перадачу інфармацыю для ўдзельніка працэсу, які не валодае зусім або дрэнна валодае чэшскай. Допыт – не самая прыемная справа, таму чалавек можа хваляваццa, блытацца ў словах, нават калі вучыў мову. Прысутнасць перакладчыка ў такіх выпадках – гарантыя права на справядлівы працэс. Я бачу сваю працу як паслугу грамадству, мяне гэта натхняе.

**– То бок гэта не толькі зараблянне грошаў, але і місія?..**

– Менавіта так я і стараюся ўспрымаць. Ёсць, вядома, свае цяжкасці. Калі я атрымала пячатку судовай перакладчыцы, то страціла адчуванне свабоды. Цалкам. Калі ты звычайны перакладчык, то можаш адмовіцца. Калі ж судовы і працуеш з юстыцыяй, то цябе могуць выклікаць у любы час, то бок і ўначы з суботы на нядзелю. Багата незапланаваных выездаў. Я ж перакладаю з рускай, а мова запатрабаваная. Думаю, перакладчыку з ісландскай у Празе жылося б значна спакайней.

### Беларусы не менш прагматычныя за чэхаў, але

**– Вяртаючыся назад, якія былі ўражанні пасля пераезду ад краіны? Ад людзей?**

– У мяне была вялізная перавага, бо на момант пераезду я ўжо добра ведала Прагу, мела сацыяльныя кантакты. Не скажу, што на 100% ведала менталітэт, але ўяўляла, чаго чакаць. Студэнты, якія едуць сюды вучыцца, раней ніколі не бываючы ў Чэхіі, часта перажываюць культурны шок і патрабуюць часу на адаптацыю... У мяне такога не было, бо я свой перажыла падчас стажыровак. Спачатку мне падавалася, што чэхі вельмі прагматычныя: эканомяць на святле, вадзе, плануюць падарожжы так, каб заашчадзіць кожную крону. Цяпер гляджу на гэта па-іншаму. Беларусы не менш прагматычныя, але эканомяць, каб прыдбаць кватэру, машыну і г.д. У нас спачатку ідзе матэрыяльнае, пасля ўсё іншае. Чэхі ж могуць ашчаджаць, каб укласціся пасля ў нешта нематэрыяльнае: у падарожжа, каб пазнаёміцца з іншымі культурамі, альбо ў які-небудзь праект, да якога неабыякавыя, у каштоўнасныя рэчы. Скіраванасць прагматычнасці іншая. Але гэта ўсё абагульненні.

**– Можа, нейкі канкрэтны прыклад?**

– Калі я працавала тут, у школе, то калега думала наконт калядных падарункаў і... вырашыла ў выніку набыць гадавыя праязныя! Першая мая рэакцыя: "Што?!.." Але тая ж калега магла для бабулі набыць квіткі ў тэатр. Такія рэчы часам шакуюць нашых суайчыннікаў. Я не лічу гэта нейкім "крахаборствам", хутчэй гэта прадуманасць. Прыярытэты тут па-іншаму будуюцца.

### Я расплакалася і выйшла на найбліжэйшым прыпынку

**– Ты казала пра каштоўнасці і свабоду... Дык чэхі маюць тую свабоду, навошта ў яе яшчэ ўкладацца?**

– Шлях да свабоды ніколі не заканчваецца. Гэта не тое, што прыдбаў 30 гадоў таму і паставіў у куток. Цяпер назіраюцца трывожныя званочкі ў палітычнай сферы, якія сведчаць пра тое, што нельга спыніцца. Ёсць моцныя праявы папулізму, а таксама ксенафобіі і расізму на палітычным узроўні. Наконт замежнікаў мноства стэрэатыпаў, нават на ўзроўні афіцыйных структур… Калі спыніцца, то ўсё гэта будзе расці. Дзякуй богу, тут вельмі моцны няўрадавы сектар, мноства грамадскіх арганізацый, якія працуюць на ўтрыманне і пашырэнне дэмакратычных і агульначалавечых каштоўнасцяў.

**Алесь Кіркевіч, budzma.by**

**Працяг гутаркі чытайце на сайце zbsb.org**

навіны

# АБВЕШЧАНЫ ЗБОР СРОДКАЎ НА КНІГУ ЎСПАМІНАЎ РАДЗІМА ГАРЭЦКАГА

"Бацькаўшчына" далучылася да ініцыятывы журналіста Глеба Лабадзенкі па збору грошай на кнігу ўспамінаў вядомага навукоўца і грамадскага дзеяча Радзіма Гарэцкага.

Паводле Лабадзенкі, у "іншай сітуацыі такую кнігу мела б падрыхтаваць Акадэмія навук ці дзяржава ў цэлым, бо гэта акурат той выпадак, калі пра чалавека кажуць "сумленне нацыі". "Але чым наракаць, прапаную сабрацца талакой і аддзячыць такім выданнем шаноўнаму Радзіму Гаўрылавічу, які днямі адзначыў 91-годдзе", – заклікаў Лабадзенка.




Акадэмік Радзім Гарэцкі нарадзіўся 7 снежня 1928 года ў Мінску. Доктар геолага-мінералагічных навук. Сын аднаго з заснавальнікаў Акадэміі навук Беларусі Гаўрылы Гарэцкага і пляменнік класіка беларускай літаратуры Максіма Гарэцкага, расстралянага бальшавікамі. Ягонага бацьку камуністы двойчы асуджалі да смерці, але замянілі прысуд на лагеры і ссылкі.

Толькі ў 1969 годзе Радзім Гарэцкі з сям'ёй вярнуўся ў Мінск. Усё жыццё займаўся навуковай дзейнасцю, быў віцэ-прэзідэнтам Акадэміі навук.

Разам з Рыгорам Барадуліным і Генадзем Бураўкіным стаў суарганізатарам Усебеларускага з'езду за незалежнасць. Узначальваў Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына".

Усе гады Радзім Гаўрылавіч занатоўваў успаміны пра свой лёс. Кніга ўпамінаў ужо вярстаецца, яна змяшчае амаль 900 старонак.

Для яе друку на платформе molamola.by пачалі кампанію збору сродкаў. На выданне трэба каля 6000 рублёў.

svaboda.org

навіны "Будзьма беларусамі!"

# "БУДЗЬМА!" ЗАЙМЕЛА ЎЛАСНУЮ ІНТЭРНЭТ-КРАМУ!

Добрая навіна для ўсіх нашых чытачоў і аднадумцаў! Кампанія "Будзьма беларусамі!" адкрыла сваю інтэрнэт-краму!

Больш няма патрэбы шукаць нашую прадукцыю ў розных месцах, бо цяпер яна сабраная ў адным. Тут і неўміручая "будзьмаўская класіка", якая даўно палюбілася многім прыхільнікам нашай кампаніі, і цікавыя навінкі, якія падкрэсляць вашую ўласную адметнасць. Уся прадукцыя выдаецца пад маркаю "Будзьма!". Акрамя світшотаў, цішотак і торбаў, мы таксама прапануем посуд, мыла ручной работы і яскравыя аксесуары ад нашых сяброў, напоўненыя нацыянальным каларытам. Добры падарунак і сабе, і блізкім, і сувенір для замежжа.

Дызайны – адметныя, рэчы – патрэбныя, цэны – прыемныя. А таксама акцыі і зніжкі, прынагодныя і проста каб парадаваць вас. Заходзьце, выбірайце ды набывайце! Дасылка па ўсім свеце.

BUDZMA-KRAMA.BY




## Беларускі каляндар памятных дат на студзень 2020 года

**1 студзеня**
- 100 гадоў таму, у 1920-м, нарадзіўся Барыс Рагуля, дзеяч нацыянальнага руху, дзеяч эміграцыі ў Бельгіі і Канадзе.

**2 студзеня**
- 140 гадоў таму, у 1880-м, памёр Браніслаў Залескі, мастак, пісьменнік.

**3 студзеня**
- 115 гадоў таму, у 1905-м, нарадзіўся Уладзімір Хадыка, паэт. Памёр у 1940-м.

**4 студзеня**
- 45 гадоў таму, у 1975-м, памёр Юрка Віцьбіч (сапр. Серафім Шчарбакоў), дзеяч эміграцыі ў Нямеччыне і ЗША.

**5 студзеня**
- 210 гадоў таму, у 1810-м, памёр Казімір Рагоўскі, філосаф.
- 145 гадоў таму, у 1875-м, памёр Адам Завадскі, выдавец.

**6 студзеня**
- 410 гадоў таму, у 1610-м, памёр Андрэй Волан, філосаф.
- 75 гадоў таму, у 1945-м, памерла Магдалена Радзівіл, мецэнатка.

**7 студзеня**
- Каляды (Раство Хрыстова) па праваслаўным (юльянскім) календары.
- 70 гадоў таму, у 1950-м, у Сіднеі пачаў працаваць першы Беларускі Клуб.
- 65 гадоў таму, у 1995-м, памёр Міхола Панькоў, журналіст, дзеяч эміграцыі ў Нямеччыне і ЗША.

**8 студзеня**
- 40 гадоў таму, у 1980-м, памёр Кастусь Кіслы, кампазітар, дзеяч эміграцыі ў Бельгіі і ЗША.

**12 студзеня**
- 20 гадоў таму, у 2000-м, памёр Яўген Глебаў, кампазітар.

**13 студзеня**
- 135 гадоў таму, у 1885-м, памёр Іван Хруцкі, мастак.

**14 студзеня**
- 15 гадоў таму, у 2005-м, памёр Браніслаў Плотнікаў, мовазнавец.

**15 студзеня**
- 135 гадоў таму, у 1885-м, памёр Антон Адынец, паэт.
- 20 гадоў таму, у 2000-м, памёр Уладзімір Шыцік, пісьменнік.
- 10 гадоў таму, у 2010-м, памёр Андрэй Капустнікаў, скульптар.

**18 студзеня**
- 125 гадоў таму, у 1895-м, нарадзіўся Лявон Більдзюкевіч, матэматык. Памёр у 1942-м.

**20 студзеня**
- 65 гадоў таму, у 1955-м, памёр Лукаш Дзекуць-Малей, грамадскі дзеяч.

**21 студзеня**
- 180 гадоў таму, у 1840-м, нарадзіўся Станіслаў Ляскоўскі, адзін з кіраўнікоў паўстання 1863–1864 гг.

**22 студзеня**
- 130 гадоў таму, у 1890-м, нарадзіўся Ільдэфонс Бобіч, выдавец.

**23 студзеня**
- 10 гадоў таму, у 2010-м, памёр Уладзімір Марук, паэт.

**30 студзеня**
- 85 гадоў таму, у 1935-м, нарадзіўся Эрнст Ляўкоў, геолаг. Памёр у 1996-м.

**31 студзеня**
- 90 гадоў таму, у 1930-м, памёр Бенедыкт Дыбоўскі, заолаг, лекар.

**Беларусы ў свеце**
№ 12 (211), снежань 2019

Інфармацыйны бюлетэнь
МГА "ЗБС "Бацькаўшчына"

Распаўсюджваецца на правах унутранай дакументацыі.
Меркаванні аўтараў могуць не супадаць з думкай рэдакцыі.

Падрыхтоўка матэрыялаў і вёрстка – С. Кандраценка
Адказныя за нумар – Н. Шыдлоўская, А. Макоўская
Наклад 250 асобнікаў

Адрас рэдакцыі:
вул. Кузьмы Чорнага, 31, офіс 906
г. Мінск 220012, Рэспубліка Беларусь
zbsb.org e-mail: zbsb.minsk@gmail.com
тэл./факс (+375 17) 370-10-12